# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

Популярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік



80 год Беларускага тэатру

Пяцьдзесятгодзьдзе У. Галубка



Уладыслаў Галубок 1882—1932

*Прыйдзем і мы сьвятлейшых дзен, як скончым строіць дом!*

№ 6 (16) Рыга, лістапад 1932 Г. 7 № 6 (16)

## Зьмест № 6 (16):

**К. Езавітаў** — Выдатнага беларускага драматурга і артысту, гр. Уладыслава Галубка вітаемо з 50-тымі угодкамі! **Уладыслаў Галубок** — Будучыня (верш). **А. Зуёўскі** — Дзьвінская Дзяржаўная Беларуская Гімназія будзэ і надалей працаваць у поўнай лічбе клясаў. **Беларускі вучыцель** — „У беларусаў мала актыўнасьці!“. **Беларускае Навукова - Краязнаўчае Т-ва** — Дзе шукаць матар‘ялы аб Янкі Купале. Якубе Коласе і Беларускім Адраджэньні. — Дапамажэце адшукаць беларускіх народных сьпявакоў і сьпявачак! — Прыступайце да запісу беларускіх народных твораў! **К. Адраджэнец** — Сьвяткаваняне 50-тых угодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа у Рызе. **Прысутная** — Сьвяткаваньне юбілею Якуба Коласа ў Дзьвінску. **А. Г.** — Сход Рады Беларускага Аддзелу з удзелам Міністра Асьветы у справе Дзьвінскае Беларускае гімназіі. **К. Ез.** — Беларускае жыцьцё у Літве. **Я. Райніс** — Сам (верш). **С. Сахарава** — Змагару Адраджэнцу (верш). **Пятро Сакол** — Латгалія. Адрывак з паэмы „Латгаліяда“. **Т-ва Беларускае Моладзі** — Хроніка працы Т-ва. **Хроніка** беларускага жыцьця у Латвіі. **Ул. Гусарэвіч** — Агульны Сход Т-ва Беларускага Тэатру.

### Абвяшчаецца падпіска на 1933 год

на адзіны ў Балтыцы беларускі штомесячнік

# „БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ“

папулярна-навуковы, пэдагогіч. і літаратурна-грамадзкі часопіс

**«Беларуская Школа у Латвіі»** асьвятляе пераважна жыцьцё беларускіх школ і грамадзтва у Латвійскай Рэспубліцы, але апроч таго дае месца аглядам беларускага жыцьця у Літве, у Заходняй Беларусі (пад Польшчай), у Беларускай Радавай Сацыялістычнай Рэспубліцы, ува Усходняй Беларусі (беларускія часткі Смаленшчыны, Пскоўшчыны і Браншчыны), а таксама і жыцьцё беларусаў у іншых краёх.

**«Беларуская Школа у Латвіі»** працуе у цесным кантакце з Беларускім Навукова-Краязнаўчым Т-вам у Латвіі і зьмяшчае навукова-краязнаўчыя працы гэтага Т-ва ды публікуе матар‘ялы з народнае беларускае творчасьці, сабраныя у Латгаліі і Ілукштаншчыне, сярод пражываючага тутака беларускага сялянства.

**«Беларуская Школа у Латвіі»** у наступным 1933 г. зьмесьціць шэраг стацей пэдагогічнага характару, як па пытаньням тэорэтычным, так і зьвязаным з штодзённаю практыкаю беларускіх школ. Зьвернута будзе увага і на тое, каб трымаць беларускае настаўніцтва у курсе працы „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“, а таксама і іншых вучыцельскіх аб‘яднаньняў у Латвіі, у Літве, Эсьціі ды у іншых краінах.

Падпіска на **„Беларускую Школу у Латвіі“** выносіць:

| | |
|---|---|
| за год, з перасылкаю, у Латвіі, Літве, Эсьціі | — 5 латаў, |
| за паўгода „ „ | — 3.50. |
| за месяц „ „ | — 0.50 сант.; |
| за год, з перасылкаю, у іншыя дзяржавы | — 2 амер. даляры, |
| за паўгода „ „ | — 1. — ам. даляр. |

Тыя грамадзяне, што загадзя, да 20 сьнежаня 1932 году, перашлюць адразу усю падпісную плату за 1933 год, атрымаюць, як **безгрошовы** дадатак, у прэмію гэткія кніжыцы: 1) К. Езавітаў — „Беларусы у Літве“, 2) К. Езавітаў — „Беларусы у мінулым і сучасным“ і А. Пажытпаў — „Нарысы тэорыі каапэрацыі“.

Грошовыя пераводы і карэспандэнцыю накіроўваць трэба на адрас: Latvijā, Rigā, Elijā ielā, 20., dz. 25. „Bielaruskaja Škola u Latvii“ Redakcijai.

Матар‘ялы, якія накіроўваюцца для друку, павінны быць напісаны **чытэльна** ад рукі, або надрукаваны, пры магчымасьці, на пішучай машынцы. Пісаць і друкаваць **трэба толькі на адным баку** аркуша.

**Беларускае Выдавецтва у Латвіі.**

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

**папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік**

**Падпісная плата**
ў Латвіі, Літве, Эсьціі і Зах. Беларусі: за год—5 лат., за паўгода—3 л. 50 с., асобны нумар — 50 сант. У іншых краінах: за год—2 ам. дал.
Надпісную плату пасылаць на бягучы рахунак часопіса: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rīgā, pastā, tek. reķins №10909.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:**
Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25 „Bielaruskaja Škola u Latviji".
**Тэлефон 2-9-9-2-2.**
**Паштовы адрас:**
Latvijā, Rīgā, pastkaste № 1362.
Рэдактар па справах часопісу прыймае па аўторках ад 15-ці да 16-ці гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук. на пiш. машынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**).
Рукапісы назад не зьвяртаюцца
Аплачваць аўтарскія гонарары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

№ 6 (16). | Рыга, лістапад 1932 году. | Год VII.


## Выдатнага беларускага драматурга і артысту грамадзяніна Уладыслава Галубка вітаемо з 50-тымі угодкамі!

3-га траўня 1882 году, у работніцкай сям'і чыгункавага сьлесара менскага дэпо, гр. Голуба, нарадзіўся сын Уладыслаў. Жыцьцё спаткала яго няласкава, у сям'і былі нядахваткі, а таму здольнаму хлапцу, добра скончыўшаму пачатковую школу і паступіўшаму ўжо было ў гарадзкое 6-ці клясовае вучылішча, скончыць гэта вучылішча не давялося — трэба было стаць на працу і зарабляць сабе на кавалак хлеба. 15-ці гадовым хлапцом, у 1897 годзе, паступіў Уладыслаў Галубок на чыгунку, дзе і адпрацаваў звыш 20 год.

Пралетарская грамада, у якой радзіўся, жыў і працаваў Уладыслаў Галубок, перад-рэвалюцыйная эпоха, на ідэях і настроях якой ён узгадоўваўся,—вытварылі ў ім той рэвалюцыйна-грамадзкі сьветагляд, з якім ён і ўвашоў у 1908 годзе ў беларускі нацыянальна-адраджэнчы рух, як пралетарскі пісьменьнік і паэта. Вершы і апавяданьні яго, пачынаючы з гэтага году, зьяўляюцца ў розных беларускіх часопісах і выданьнях: у „Нашай Ніве", „Маладой Беларусі" „Вольнай Беларусі" і інш. Ад вершаў і апавяданьняў хутка пераходзе Уладыслаў Голуб да драматычных твораў, якія падпісвае псэўданімам (мянушкаю) — Галубок.

У драматургіі знайшоў У. Галубок сваю запраўдную стыхію. Ужо драма „Апошняе спатканьне", якую з такім захопленьнем глядзела беларускае грамадзтва і якая да гэтага часу не зыходзе з беларускае сцэны, выявіла які моцны талент захоўваецца пад блюзай менскага чыгуначніка. Далейшыя драматургічныя спробы і буйнае разьвіцьцё беларускае тэатральнае справы пасьля рэвалюцыі 1917 году зрабілі тое, што У. Галубок зусім кінуў працу на чыгунцы і цалком аддаўся справе беларускага тэатру: ён ня толькі пісаў драмы, але і сам выконываў у іх галоўныя ролі.

У 1923-24 годзе Уладыслаў Галубок арганізаваў свой вандроўны тэатр і з ім, вось ужо ў працягу некалькіх год, вандруе па

ўсей Радавай Беларусі, забіраючыся ў самыя глухія куткі беларускае вёскі. Праведзеная ім за гэты час праца патрабуе цэлае монографіі, і мы спадзяёмся, што сам пісьменьнік і яго бліжэйшыя сапрацаўнікі падзеляцца з беларускім грамадзтвам сваімі ўспамінамі з гэтых цікавых і бязьмерна-карысных пастановак і вандровак. Наскольні праца Уладыслава Галубка ў гэтым кірунку была важнай і карыснай відаць ужо з таго, што Урад Радавае Беларусі надаў яму годнасьць Беларускага Народнага Артысты і адпаведную пэнсыю.

Вандруючы з тэатрам-перасоўкаю, Уладыслаў Галубок не на хвіліну не закідаў сваей драматургічнай працы і за гэты час напісаў некалькі дзясяткаў п'ес, галоўным чынам з мяшчанскага і сялянскага жыцьця. П'есы гэтыя з нязьменным і вялікім посьпехам ставіліся і ставяцца ў ягоным вандроўным тэатры (зара' ён завецца—„Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр" і ўтрымоўваецца беларускім урадам). Але, на вялікі жаль, і сам пісьменьнік і адпаведныя ўлады і выдавецтвы мала рупяцца аб тым, каб п'есы гэтыя былі выдрукаваны, а таму беларускае грамадзтва па-за-межамі Радавай Беларусі да гэтага часу зусім з гэтымі п'есамі не знаёма. У гэтым ёсьць вялікая крыўда і самому пісьменьніку і ўсяму беларускаму грамадзтву.

Вітаючы Уладыслава Галубка з 50-тымі ўгодкамі, шчыра жадаем яму далейшых посьпехаў, як драматургу і артысту, і адначасна просімо яго, каб зьвярнуў ён, нарэшці, належную ўвагу на хутчэйшае надрукаваньне ўсіх сваіх твораў!

**К. Езавітаў.**

## Будучыня.

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды—сюды снуе народ:
Будуюць новы дом.

Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Зьвініць сталёвы лом:
На месцы даўнай старыны
Будуюць новы дом.

Штодзень угорку сьцены йдуць
Ушыр і ўдоўж кругом,
Баліць мазоль і рвецца грудзь,
А ўсё-ж будуюць дом!

Настане дзень, надыйдзе час,
Мы крэпку столь зьвядзём,
І лепшай прышласьцю для нас
Быць мусе новы дом!

Працуйма-ж, брацьця! Хай хутчэй
Наш льлецца пот цурком:
Прыжджом і мы сьвятлейшых дней,
Як скончым строіць дом!

**Уладыслаў Галубок.**

**Дзьвінская Дзяржаўная Беларуская Гімназія будзе працаваць і надалей у поўнай лічбе клясаў.**

Як мы ўжо паведамлялі ў папярэдніх нумярох нашага штомесячніка, міністр асьветы, гр. А. Кеныньш, надумаўся быў распачаць — і фактычна ўжо быў распачаўшы з гэтай восені — паступовую ліквідацыю Дзьвінскай Беларускай Дзяржаўнай гімназіі. З гэтай мэтай ён у канцы жніўня месяца, калі вучні ўсіх клясаў ужо з'ехаліся на заняткі, раптоўна забараніў прыймо вучняў у I клясу і абвесьціў паступовую ліквідацыю Дзьвінскае гімназіі. Абураныя і зьдзіўленыя бацькі вучняў і беларускае грамадзтва больш месяца спрабавалі пераканаць міністра асьветы ў безпадстаўнасьці і непатрэбнасьці гэтага кроку, дамагаючыся адмены гэтага загаду, але міністр упарта стаяў на сваім. Тады страціўшыя надзею пераканаць міністра бацькі вучняў падалі скаргу на яго ў Сэнат.

Зара' даведваемся, што міністр асьветы, нарэшці, адпусьціўся і даў загад, каб новапрызначаны дырэктар гімназіі кс. I. Чаман аднавіў прыймо вучняў у I клясу. Да гонару новага дырэктара трэба аднесьці тое, што ён выявіў патрэбную энэргію, склікаў вучняў, часткай сядзеўшых на вёсках, а часткай паступіўшых было ў I клясу Рыскае беларускае гімназіі, і з 7 лістападу ўжо распачаў заняткі і ў I клясе (рэшта клясаў была распачаўшы заняткі своячасна яшчэ пры старым дырэктары С. Сахараву).

Такім чынам, замах на Дзьвінскую беларускую гімназію на гэты раз адведзены.—Але,—ці надоўга?—Адказ на гэта пытаньне ляжыць ня толькі ў розных вонкавых падзеях і абставінах, але і ў ступені самасьвядомасьці і актыўнасьці самой беларускай меншасьці ў Латвіі. Працуйма, грамадзяне, больш энэргійна, дык ніхто нас церабіць ня будзе!

**А. Зуёўскі.**

**„У беларусау мала актыунасьці!“**

Так сказаў міністар асьветы, гр. А. Кеныньш, калі ён прыймаў Раду Беларускага Аддзелу ў зьвязку з пытаньнем аб ліквідацыі Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі.

Сябра Рады Аддзелу, С. П. Сахараў, на думку міністра асьветы аб зьбліжэньні беларусаў з латыскаю культураю паміж іншым адзначыў, што шмат беларускіх дзетак вучыцца ў дзяржаўных ці агульнага дэпартамэнту пачатковых школах Дзьвінскага, Люцынскага і Ілукштанскага паветаў і для гэтых дзетак забаронена чамусьці вучыць сваю родную мову і прадмэты сваей роднай культуры. Беларускія дзеткі ў гэтых школах, дзе выкладаньне вядзецца на латыскай мове, добра знаёмяцца з латыскай культураю, яны вучаць і нямецкую і расейскую мову, але яны ня ведаюць сваей культуры і там няма ніводнага беларускага вучыцеля.

Міністар вельмі спачуваюча адгукнуўся на закранутае гр. Сахаравым пытаньне і абяцаў яго высьветліць з дырэктарам пачатковых школ, але тут-жа адзначыў: — „Відаць у гэтым пытаньні беларусы былі мала актыўны!“

І запраўды, ці выявіла належную актыўнасьць у гэтым вельмі важным пытаньні беларускае грамадзтва? Што зрабіў у гэтай справе Беларускі Аддзел? беларускія арганізацыі? наша вучыцельства? і наша беларускае сялянства на мяйсцох?—Ці пададзена хоць адна дэкларацыя ў адпаведныя ўстановы ад нашых бацькоў аб увя-

дзеньні ў гэткіх школах выкладаньня прадмэтаў беларускае культуры?

Мне, здаецца, што — не!

А між тым, калі ўзяць такія школы, як Індраўская, Зілупская, Пасінская, Пустынская, Неўлянская і шмат іншых, дык у іх на 90% вучацца беларускія дзеткі, і яны зусім адарваны ад крыніц беларускае культуры. І бязумоўна, калі-б нашы бацькі арганізавана і ўпарта дамагаліся-б выкладаньня беларускай мовы ў гэтых школах, дык яна была бы ўведзена.

Таксама тут трэба прыняць пад увагу, што ў нас у запасе ёсьць кадр маладых беларускіх вучыцялёў, якія скончылі беларускія вучыцельскія курсы з правам выкладаньня латыскае мовы і якія з карысьцю маглі-б заняць пасады ў дзяржаўных і агульнага дэпартамэнту школах. Аднак, іх туды не прызначаюць.

Беларусы, арганізуйцеся і падавайце дэклярацыі ў Школьныя Управы, інспэктаром і Беларускаму Аддзелу аб увядзеньні прадметаў беларускае культуры ў дзяржаўных і агульнага дэпартамэнту школах!

Памятайце заклік нашага паэты Мацея Бурачка (Ф. Багушэвіча):—„Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!“

**Беларускі вучыцель.**

## Дзе знайсьці матар'ялы аб Я. Купале, Я. Коласе і Беларускім Адраджэньні.

У зьвяку з сьвяткаваньнем 50-тых угодкаў нашых выдатнейшых паэтаў, Янкі Купалы і Якуба Коласа, для многіх з нашых сяброў і настаўнікаў у Латвіі паўстала пытаньне аб тым, якімі крыніцамі карыстацца для складаньня рэфэратаў і дакладаў аб гэтых пісьменьніках, для характарыстыкі іхняе творчасьці і для высьвятленьня іхняе ролі ў гісторыі Беларускага Адраджэньня. Мы рэкамэндуем нашым калегам выкарыстаць гэткія выданьні:

1) Anton Nawina — „Naczy piesniary“. Wilno, 1914 hod. Надрукавана лацінікай.

2) Праф. Н. А. Янчук — „Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры“. 1917 г. Масква, 80 бал.

3) Ив. Белоусов — „Янка Купала, белорусский поэт. Избранные стихотворения в переводах русских поэтов. С биографическим очерком и портретом“. Москва, 1919 год. 112 балонак.

4) Праф. Ус. Ігнатоўскі — „Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі“. Менск, 1921. 80 балонак.

5) Проф. С. Ф. Карскій — „Бѣлоруссы“. Том III, книга 3-я. Художественная литература на народном языкѣ. Петроград, 1922. 450 бал. На расейскай мове.

6) Максім Гарэцкі — „Гісторыя беларускае літаратуры“. Выданьне чацьвёртае, перарobленае. Менск, 1926. Бал.: 167—171 і 180—207.

7) Ул. Дзяржынскі — „Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX стагодзьдзяў“. Менск, 1926. Кошт 4 рублі 25 кап. Бал.: 7—9, 65—70, 91—98, 151—312.

8) Ул. Дзяржынскі — „Якуб Колас у літаратурнай крытыцы“. Менск, 1926. Бал. 1—162. Зьмест кнігі гэткі:

1) Ад выдавецтва. 2) Да біяграфіі Я. Коласа. 3) Праф. І. Замоцін — Якуб Колас. 4) Ул. Дзяржынскі — Да партрэту Якуба Коласа у літаратурнай крытыцы. 5) М. Байкоў — Паэма „Новая Зямля“, як манумэнтальны твор у беларускай паэзіі. 6) Праф. І. Замоцін — Пуціны беларускае літаратуры. 7) Ул. Дзяржынскі — Праме-

няцца далі. 8) Антон Лёсік — Сацыяльна-палітычны элемэнт у творах Я. Коласа: „Новая Зямля“ і „Сымон Музыка“. 9) Антон Навіна — Сымон Музыка. 10) Праф. М. Пятуховіч — „У Палескай глушы“, як новы этап беларускай мастацкай прозы. 11) Ю. Дрэйзін — Музыка у творах Якуба Коласа. 12) Праф. П. Бузук — Мова і правапіс твораў Якуба Коласа. 13) Р. Шукевіч-Трацьцякоў — З „Ціхай вады“ — „на прасторы жыцьця“. 14. Ул. Дзяржынскі — На паваропе.

9) Д-р І. Дварчанін — „Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры“. Вільно, 1927 год. 500 балонак. Кошт 9 злотых.

10) Праф. М. М. Піотуховіч — „Нарысы гісторыі беларускай літаратуры“. Частка першая. Агляд літаратурна-ідэолёгічных плыняў XIX і пачатку XX ст. Менск., 1928. Кошт 1 р. 60 кап.

11) Л. М. Клейнборт — „Молодая Белоруссия“. Очерк современной белорусской литературы. 1905—1928 г. г. Минск, 1928. На расейскай мове. 506 бал. Кошт 3 р. 85 кап.

12) З. Жылуновіч і М. Байкоў — „Янка Купала ў літаратурнай крытыцы“. Менск, 1928. 260 бал. Кошт 2 руб. Зьмест кнігі:

1) Ад выдавецтва. 3) З. Жылуновіч — Янка Купала — пясьняр вызваленьня (Крытычна - біаграфічны нарыс). 2) М. Байкоў — Месца Янкі Купалы у беларускай літаратуры (Купала і Шэўчэнка). 3) Ул. Дзяржынскі — Асьнаўныя этапы у разьвіцьці лірыкі Янкі Купалы. 4) Праф. І. Замоцін — Драматычныя творы Янкі Купалы. 5) Праф. А. Вазнясенскі — Паэмы Янкі Купалы (сюжэтная пабудова і стыль). 6) Ю. Дрэйзін — Музыка у творах Янкі Купалы. 7) Л. Цьвяткоў — Янка Купала, як перакладчык.

13) М. Байкоў (Мікола Крывіч) — „На літаратурныя тэмы“. Менск, 1929. Кошт 1 р. 10 кап. 214 бал.

14) К. Езавітаў — „Беларусь у мінулым і сучасным“. Канспэкт пазашкольнаму працаўніку для лекцыяў з чароўным ліхтаром. Рыга, 1929. Кошт 50 сант. 30 бал.

15) Антон Навіна — „Янка Купала, як прарок Адраджэньня“. Публічная лекцыя. Вільня, 1932. 16 балонак.

Усе гэтыя кніжкі можна атрымаць праз Беларускае Выдавецтва ў Латвіі (Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25), праз Віленскія беларускія кнігарні, а таксама выпісаць і праз іншыя кніжныя склады і буйнейшыя магазіны ў Рызе і правінцыі.

**Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва у Латвіі.**

**Дапамажэце адшукаць па вёсках добрых беларускіх сьпявакоў і сьпявачак!**

**Прыступайце да запісу беларускіх народных твораў у Латгаліі і Ілукштаншчыне!**

Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва ў Латвіі (Baltkrievu zinātnīskā - dzimtenes pētišanas b-ba Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25) набыла фонограф для запісу народных сьпеваў і просіць беларускае грамадзтва падаць да ведама Т-ва імёны і мейсца побыту вясковых беларускіх сьпявакоў і сьпявачак, каб прадстаўнік Т-ва мог аб‘ехаць з фонографам адпаведныя хутары і вёскі ды зрабіць на мясцох запісы.

Адначасна Т-ва зьвяртаецца да ўсіх сьвядомых беларускіх грамадзян, настаўніцтва, сялян, рабочых, курсантаў, гімназістаў і вучняў старэйшых клясаў аснаўных школ, — з гарачым заклікам, каб запісвалі па сваіх вёсках і ў сваіх ваколіцах беларускія народныя творы: байкі, апавяданьні, песьні, прыказкі, замовы і загадкі; а таксама, каб апісвалі і запісвалі: звычаі, прыметы, назовы рэчаў і мясцовасьцяй ды паасобныя цікавыя словы.

**Беларускае Навукова-Краязнаўчае Т-ва у Латвіі.**



**Удзельнікі сьвяткаваньня 50-тых угодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў залі Рыскай Беларускай гімназіі, 29 кастрычніка 1932 г.** У першым радзе зьлева ўправа сядзяць вучыцялі гімназіі: М. Грыўскі, К. Мяжэцкі, Ф. Клагіш, С. Сіцько, дырэктар гімназіі — А. Родзька, кіраўнік Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы Латвіі — Ул. Пігулеўскі, вучыцялі гімназіі: К. Езавітаў, Я. Клагіш і Ю. Брач.

## Сьвяткаваньне 50-тых угодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Рызе.

Рыскае беларускае грамадзтва, ня гледзячы на сваю амаль-што поўную адарванасьць ад духовага жыцьця іншых беларускіх культурна-адраджэнчых цэнтраў, ня гледзячы на тое, што жыве быццам на нейкай высьпе сярод мора іншых нацыянальнасьцяў, — ў справе ўшанаваньня 50-тых угодкаў двух вялікшых сучасных беларускіх паэтаў, Янкі Купалы (Я. Луцэвіча) і Якуба Коласа (Канстантына Міцкевіча), аказалася на першым мейсцу. Да гонару рыскіх беларусаў трэба адцесьці тое, што яны першыя успомнілі аб наступіўшых угодках, і ужо у ліпнёўскім нумары штомесячніка „Беларуская Школа“ сваячасна адзначылі юбілей Янкі Купалы, адклаўшы урачыстае грамадзкае сьвяткаваньне юбілею на восень, калі распачнецца праца у школах. 29-га і 30-га кастрычніка і адбыліся юбілейныя абыходы у Рызе.

29-га кастрычніка у залі Рыскай Беларускай прыватнай гімназіі, на Латгальскім (Маскоўскім) Фарштаце, на Вялікай Маскоўскай вуліцы 173, адбыўся урачысты сход-акт настаўнікаў, вучняў і бацькоў гэтае гімназіі, з удзелам запрошанага беларускага грамадзтва. Акт адчыніўся прамоваю дырэктара гімназіі — гр. А. Родзька, затым вялікі рэфэрат на тэму: „Янка Купала і Якуб Колас у беларускім адраджэньні“ прачытаў выкладчык гісторыі беларускае літаратуры у гімназіі — гр. К. Езавітаў. Пад час рэфэрату вучні гімназіі і гімназіяльны хор выступалі з вершамі Я. Купалы і Я. Коласа і са сьпевамі, якія ілюстравалі паасобныя тэзісы дакладчыка. Па рэфэраце хор гімназіі, пад кіраўніцтвам вучыцеля сьпеваў — М. Грыўскага, выступіў з шэрагам беларускіх сьпеваў. Урачысты сход закончыўся беларускім і латыскім гімнамі. На сход зьявілася паўнюсенькая заля грамадзтва, цёпла вітаўшая прамоўцаў, дэкляматараў і сьпевакоў.



**Група вучняў-артыстаў Вячэрняй Беларускай школы для дарослых на акце ушанаваньня 50-тых угодкаў Якуба Коласа**, 30 кастрычніка 1932 году, браўшых удзел у пастаноўцы п'есы „Пінская Шляхта". У цэнтры групы сядзяць (зьлева управа): старшыня Т-ва „Беларуская Хата" — М. Дзямідаў, старшыня Навукова-Краязнаўчага Т-ва — К. Езавітаў і кіраўнік Рыскай Беларускай вячэрняй школы для дарослых — Я. Кастылюк. Наўкола іх хлапцы і дзяўчаты—вучні з драматычнай дружыны памянёнай школы.

30-га кастрычніка у старым горадзе на Вялікай Каралеўскай 3, у залі клюбу „Вулей", Беларускае культурна-асьветнае Т-ва „Беларуская Хата", супольна з Рыскай беларускай вячэрняй школай для дарослых, наладзіла вечарыну-акт, прысьвечаную спэцыяльна 50-ціgодзьдзю Якуба Коласа. Тутака таксама заля была перапоўнена беларускім грамадзтвам, на гэты раз зьявіўшымся пераважна з Чырвонай Дзьвіны і Мільграбену. Акт адчыніўся прамоваю старшыні Т-ва „Беларуская Хата" — гр. М. Дзямідава і латыскім дзяржаўным гімнам, пасьля якога з вялікім дакладам аб значаньні Якуба Коласа і Янкі Купалы у нацыянальна-сацыяльным руху беларускіх працоўных масаў выступіў старшыня Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва у Латвіі — гр. К. Езавітаў. Пасьля дакладу усімі прысутнымі быў выканаглы беларускі гімн, а затым вучні Вячэрняе школы для дарослых, у якой вучыцца каля 350 беларускіх рабочых і работніц з Чырвонай Дзьвіны і Мільграбену, выступілі з вершамі Я. Коласа і Я. Купалы. Па сканчэньні акту адбылася вечарына са спэктаклям. Ставілі п'есу Д. Марцынкевіча — „Пінская Шляхта", якую выканалі вучні Вячэрняе школы для дарослых пад кіраўніцтвам вучыцеля гэтае школы — М. Дзямідава. П'еса прайшла дужа добра: гралі жыва, з поўным разуменьнём роляў, відаць была старанная падрыхтоўка; добра былі дадзены грым і вопраткі.

Абадвы сьвяткаваньні прайшлі у радасным, узьнятым і бадзёрым настрою. Ня гледзячы на апошнія наскокі на нашыя беларускія школы, беларускае грамадзтва ня траціць настрою. Можна сказаць, што зусім наадварот — нечаканыя удары па нацыянальных і культурна-асьветных беларускіх правох і беларускаму нацыянальнаму гонару — абуджаюць ад сьпячкі наша грамадзтва і цясьней згуртоўваюць яго для самаабароны і змаганьня за свае правы. Часьцей-бы гэткія сьвяты!

**К. Адраджэнец.**

## Сьвяткаваньне 50-ых угоднау Янкі Купалы у Дзьвінску.

У нядзелю 20 лістападу Дзьвінская Беларуская гімназія адсьвяткавала пяцьдзесятгодзьдзе жыцьця беларускага народнага паэты Янкі Купалы (Янкі Луцэвіча). Урачыстасьць была адчынена кароткім уступным словам заступніка дырэктара гімназіі, вуч. Ул. Раткіна. Прыгожа прыбраная заля гімназіі была перапоўнена вучнямі гімназіі, Дзьвінскай беларускай пачатковай школы і іх бацькамі.

Вучаніца IV клясы, Л. Чаркоўская, прачытала рэфэрат, у якім падрабязна і вобразна паказала жыцьцё і працу Яна Луцэвіча.

Пасьля рэфэрату вучні IV клясы гімназіі, пад кіраўнітвам вучыцеля роднае мовы А. Якубецкага, згулялі на сцэне абразок Янкі Купалы — „На Папасе“. Роль незнаёмага дужа добра выканаў вучань Макаруха. З ролямі падарожных належна справіліся — Кукель, Оруб і Касьпяровіч.

На заканчэньне хор вучняў гімназіі, пад кіраўніцтвам вучыцеля Катоўскага, добра выканаў 6 беларускіх песьняў. Відаць, што хор гімназіі зара‘ ажывае ад тэй мерцьвячыны, якая была раней.

У перамежку з песьнямі хору, вучні гімназіі дужа добра прадэклямавалі 12 вершаў Янкі Купалы. Асабліва спадабаліся усім дэклямацыі: вуч. IV клясы Кукеля, вуч. II кл. В. Гордан і вуч. III кл. — Шаўдзінь і Л. Сільвановіч.

Настрой усіх прысутных быў праўдзіва сьвяточны і захоплена ўзьняты. Пад час дэклямаваньня і сьпеваў было бачна многа ўзварушаных твараў і бліскучых вачэй. Моцныя словы паэты і родная песьня дайшлі ўсім да сэрца.

**Прысутная.**

## Сход Рады Беларускага Аддзелу з удзелам Міністра Асьветы у справе Дзьвінскае Беларускае гімназіі.

21-га верасьня гэтага году, у зьвязку з меўшым месца, але зара‘ адмененым загадам міністра асьветы аб ліквідацыі 1-ае клясы Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі, адбыўся надзвычайна важны па сваіх выніках і дужа характэрны па сваей абстаноўцы — сход Рады Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы. Інфармацыі аб гэтым, у поўнай меры гістарычным сходзе, мы нажаль, ня мелі магчымасьці зьмясьціць сваячасна ў кастрычнікавым нумары штомесячніка, але і зара‘, ня гледзячы на спазьненьне, справаздача аб гэтым сходзе нагэтулькі цікавая, што мы даем яе поўнасьцьцю.

Сход адчыніўся са значным спазьненьнем, а 11 гадзіне зраньня, ў адсутнасьці сябры Рады Аддзелу гр. Ул. Раткіна, які спазьніўся з цягніка, з Дзьвінску. На сходзе былі прысутнымі: кіраўнік Беларускага Аддзелу — Ул. Пігулеўскі, прадстаўнікі ад культурна-асьветных таварыстваў: ад Т-ва „Прасьвета“ — гр. П. Жордзі, ад Т-ва „Беларуская Хата“ — гр. Я. Кастылюк, ад Т-ва „Рунь“ — гр. Л. Клагіш-Тэтар, прадстаўнікі беларускага вучыцельства: гр. гр. К. Езавітаў, С. Сахараў і Ул. Раткін (прыехаў у 13 гадзін дня) ды заступнік дзелавода Беларускага Аддзелу — гр. Арк. Рытаў, які разам з тым быў і за сэкратара гэтага сходу Рады Аддзелу.

Кіраўнік Беларускага Аддзелу, гр. Ул. Пігулеўскі, бярэ слова і асьвятляе сходу становішча Дзьвінскай Беларускай гімназіі. Высьвятляецца, што Дзьвінская Беларуская гімназія міністрам асьветы А. Кенынем паступова ліквідуецца: у гэтым годзе зачынена першая кляса і звольнены дырэктар гімназіі гр. С. Сахараў, а далей намячаецца ліквідаваньне кожны год па аднэй клясе. Дзякуючы настаяньням і просьбам беларускіх дэлегатаў, шмат разоў наведываўшых міністра, міністр асьветы, нібы-та, ідзе на кампраміс і загадаў адчыніць 1-ю паралельную беларускую клясу пры Латыскай Урадовай гімназіі ў Дзьвінску і зара‘ прапануе Радзе Беларускага Ад-

дзелу, — як прадстаўніку ўсяго беларускага актыўнага грамадзтва, даць адказ: — ці яна падтрымоўвае адчыненьне беларускае паралельнае I клясы пры латыскай Урадовай Дзьвінскай гімназіі, ці не?

З абмену думак па дакладу кіраўніка Аддзелу высьветлілася, што: 1) аб гэтай прапазыцыі міністра асьветы беларускія культурна-асьветныя арганізацыі і Таварыства беларускіх вучыцялёў ужо былі паінфармаваны, 2) на сваіх агульных сходах і на сходах сваіх праўленьняў ужо разгледзілі прапазыцыю міністра асьветы і 3) ставяцца да яе адмоўна. Большасьць арганізацый пасьпела ўжо прыслаць Радзе Беларускага Аддзелу свае рэзалюцыі ў гэтай справе. Усе прысланыя т-вамі паведамленьні і рэзалюцыі катэгарычна адхіляюць прапанову міністра асьветы аб адчыненьні беларускае паралельнае 1-ае клясы пры латыскай гімназіі. З агалошаных рэзалюцый асабліва цікавая рэзалюцыя надзвычайнага агульнага сходу „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“, якую тутака і зьмяшчаемо цалком:

**Рэзалюцыя 2-га Надзвычайнага Агульнага Сходу Т-ва Беларускіх вучыцялеу у Латвіі.**

„2-гі Надзвычайны Агульны Сход Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі, што адбыўся 20 верасьня 1932 году ў Рызе, азнаёміўшыся з жаданьнем Міністэрства Асьветы, заместа зачыненае 1-е клясы пры Дзьвінскай Беларускай гімназіі, арганізаваць у Дзьвінску паралельныя беларускія клясы пры Дзьвінскай Дзяржаўнай Латыскай гімназіі, — лічыць гэты праэкт няпрыемлемым для беларускай меншасьці з боку пэдагогічна-выхаваўчага, а таксама не адпаведаючым інтэрасам беларускага жыхарства і парушаючым правы беларусаў на існаваньне сваей нацыянальнай гімназіі.

Таму Надзвычайны Агульны Сход зьвяртаецца да Рады Беларускага Аддзелу з просьбай усімі спосабамі бараніць існаваньне Дзьвінскай Беларускай гімназіі ў поўнай лічбе клясаў.

Прадстаўнікам Беларускага вучыцельства на сходзе Рады Аддзелу Надзвычайны Агульны Сход Т-ва даручае самым рашучым спосабам адхіліць прапазыцыю аб утварэньні і аб патрымцы паралельных беларускіх клясаў пры Дзьвінскай Урадовай Латыскай гімназіі і дамагацца аднаўленьня працы ў 1-й клясе Дзьвінскай Урадовай Беларускай гімназіі ўжо ў гэтым навучальным годзе.

Ад імя 2-га Надзвычайнага Агульнага Сходу Т-ва Беларускіх лучыцялёў у Латвіі: Старшыня Агульнага Сходу — Н. Юзэфовіч, старшыня Цэнтральнага Праўленьня Т-ва — Г. Плыгаўка, сэкратар — М. Калінін“.

Пасьля зачытаньня ўсіх рэзалюцый беларускіх культурна-асьветных арганізацый і пасьля ўсебаковага абмяркаваньня стварыўшагася становішча з Дзьвінскай беларускай гімназіяй, Рада Аддзелу станула на тым пункце гледжаньня, што ей, як выбранай прадстаўніцы ўсяго беларускага грамадзтва ў Латвіі неабходна лічыцца з поглядамі і жаданьнямі арганізаванага беларускага грамадзтва, а дзеля таго, што ўся беларуская меньшасьць у Латвіі страшэнна абурана і пратэстуе супроць неправядловых крокаў міністра асьветы ў справе Дзьвінскай беларускай гімназіі, аб чым яскрава сьведчаць пастановы т-ваў, дык трэба цьвёрда стаяць на варце культур-

ных інтэрасаў беларускае меншасьці ў Латвіі і патрабаваць поўнай рэстаўрацыі Дзьвінскай беларускай гімназіі ў ліку ўсіх 4 клясаў.

Толькі што Рада Аддзелу зьбіралася прыступіць да апрацаваньня канкрэтнае рэзалюцыі ў гэтай справе, як, каля 12-яе гадзіны, у габінэт кіраўніка Беларускага Аддзелу, дзе за-звычай адбываюцца сходы Рады, зьявіўся сакратар міністра асьветы гр. В. Вігант і паведаміў Раду Аддзелу, што міністр асьветы, гр. А. Кенынып, жадае прыняць удзел у сходзе Рады, але заняты справамі і ня можа зьявіцца на сход Рады у Беларускі Аддзел, дык просіць Раду Аддзелу перанесьці свой сход у габінэт міністра (знаходзіцца паверхам ніжэй Беларускага Аддзелу). Сябры Рады Беларускага Адзелу не былі зьдзіўлены гэтаю працазыцыяй, бо ўжо перад пачаткам сходу ўсім сябром было ведама, што міністр асьветы сам выказаў жаданьне быць прысутным на сходзе Рады Аддзелу, але ў прызначаную гадзіну адчыненьня сходу і на першую палову яго не зьявіўся.

Рада Аддзелу ўхваліла перанесьці працяг свайго сходу ў габінэт міністра асьветы, і ўсе сябры, апроч усе яшчэ адсутнаго Ул. Раткіна, накіраваліся ўніз да міністра.

Гр. Кенынып спаткаў Раду Аддзелу надзвычайна ветліва, пазнаёміўшыся і прывітаўшыся з каждым паасобным сябром, запытаўся ці ўсе сябры Рады Аддзелу разумеюць дзяржаўную мову. Атрымаўшы сьцьвярджаючы адказ, міністраў заняў сваё мейсца за пісьменным сталом, сябры Рады размясьціліся на крэслах навокал стала міністра і на канапе. Абвесьціўшы працяг сходу, кіраўнік Беларускага Аддзелу дакладае міністру, што Рада Аддзелу ўжо абгаварыла пытаньне аб зачыненьню Дзьвінскай гімназіі і просіць у гэтай справе выказацца гр. міністру.

Міністар асьветы, гр. А. Кенынып, у аўтарытэтным і рашучым тоне зазначае, што яго пункт гледжаньня ў справе зачыненьня Дзьвінскай гімназіі ўжо шмат разоў тлумачыўся кіруючай беларускімі прасьветнымі справамі ўстанове — Беларускаму Аддзелу; да ўсяго раней ўжо сказанага міністр мае дадаць яшчэ толькі тое, што ён жадае даць магчымасьць беларускай моладзі вучыцца ў сваей роднай мове і з гэтай мэтай прапануе зара‘ адчыніць беларускі камплект, у складзе пакуль-што першае клясы, пры Дзьвінскай латыскай гімназіі. Кіраўнікам гэтага камплекту будзе прызначаны міністрам асобны дырэктар-латып. У будучыне магчыма будзе гэны камплект аб‘яднаць з іншымі клясамі беларускай гімназіі, зьмясьціўшы іх у адным памешканьні, калі гэта толькі будзе патрэбна і рацыянальна, з агульным дырэктарам-латышом. Калі-б у канцы гэтага вучэбнага году, ці у пачатку наступнага навучальнага году ўсплыло-б зноў пытаньне аб аднаўленьні беларускае гімназіі, як самастойнае ўстановы, можна будзе ўсю справу аб зачыненьні перагледзіць на-нова.

Сябра Рады Адзелу гр. К. Езавітаў, прамаўляючы ў беларускай мове, прапануе для інфармацыі міністра зачытаць надасланыя па гэтаму пытаньню рэзалюцыі т-ваў. Міністр кажа, што зачытываньне рэзалюцый Т-ваў яго не цікавіць, а просіць выказаць думку прысутных сяброў Рады Аддзелу, бо пастановы Рады Аддзелу, а не таварystваў, маюць для яго афіцыйнае і вырашаючае значаньне.

Сябра Рады гр. П. Жордзі прапануе парадзіцца з міністрам, незалежна ад зьместу папераў, надасланых т-вамі, матывуючы

сваю прапанову тым, што т-вы могуць ня ведаць дасканала ствары̆ўшагася становішча і ўсіх абставінаў справы. На гэта міністар зазначае, што зара' на сходзе ён ня можа даць ніякіх канкрэтных абяцаньняў, а прыймае удзел у сходзе Рады Аддзелу толькі для высьвятленьня пажаданьняў і поглядаў Рады Аддзелу. „Сучаснае становішча гэткае" — кажа міністар — „няма 1-е клясы. Вы ў існаваньні яе зацікаўлены. Прашу выказацца: ці вы і надалей жадаеце займаць пазыцыю пратэста і ня будзеце пасылаць вашых дзяцей у паралельныя клясы пры Дзьвінскай латыскай гімназіі, ці вы ўсё-ж-такі знаходзіце магчымым навучэньне беларускіх дзяцей сумесна з латыскімі і можаце маю прапанову прыняць і падтрымаць. Я думаю, што я даю вам магчымасьць вучыць сваіх беларускіх дзяцей!"

Сябра Рады гр. Я. Кастылюк запытывае міністра: „Хто будзе кіраўнікам праэктуемага кампленту — гр. Фр. Обштэйн, дырэктар латыскае гімназіі ў Дзьвінску, ці хто іншы?—"Міністар адказывае, што, відаць, гр. Я. Кастылюк кепска разумее дзяржаўную мову, бо міністар аб гэтым толькі-што выказаўся. Тут міністар пераходзе на расейскую мову і зноў вытлумачывае, што арганізуемаму беларускаму кампленту ў складзе аднэй 1-й клясы будзе прызначаны асобны дырэктар-латыш, які — „мабыць, будзе зацікаўлены існаваньнем беларускага кампленту ня меньш, чым былы дырэктар С. Сахараў". А ў залежнасьці ад тых уражаньняў, якія вынясе гэты дырэктар-латыш, магчыма будзе канчаткова гаварыць аб беларускай гімназіі: ці аднавіць яе, як самастойную, ці зьліквідаваць яе зусім.

Сябра Рады гр. К. Езавітаў падрабязна высьвятляе жудасны эканамічны стан малазямельнага і беззямельнага беларускага сялянства ў Латгаліі і беларускіх рабочых ды працоўнай інтэлігэнцыі ў гарадох, дзякуючы якому здабываньне сярэдняе асьветы для беларускіх сялянскіх дзяцей і працоўнае моладзі абстаўлена надзвычайнымі труднасьцямі. Толькі дзякуючы таму, што беларускае вучыцельства ў Дзьвінскай гімназіі і ў іншых школах йшло на шматлічныя ахвяры, было магчыма падтрымоўваць незаможных вучняў, складаць за іх плату за навучэньне, даваць навучальныя дапамогі і утрымоўваць у бурсе. Зара' ствараецца такое становішча, якое адпугівае вучняў і бацькоў ад гімназіі. Ці зможа гімназія і далей утрымліваць інтэрнат, звальняць бедных вучняў ад платы, даваць вучэбныя дапамогі і г. д.? — „А чаму і далей не?" — перабівае міністар.—К. Езавітаў адказвае: „Вось ужо адбыліся зьмены ў вучыцельскім складзе гімназіі, куды ўвайшло некалькі латышоў. Што-ж мы бачым? — Як зара' стаіць справа адлічэньня ад пэнсыі на карысьць незаможных вучняў? Раней, напрыклад, дырэктар С. Сахараў дабраахвотна ўносіў што-месяц на вышэй азначаныя патрэбы па 50 латаў; ня ведаю—ці зможа і ці захоча гэтае рабіць новы дырэктар?"—„Думаю, што — не!" — ўстаўляе міністар. — Далей К. Езавітаў гавора аб палітычных мотывах і падставах, якія былі ў жніўню месяцы высунуты міністрам асьветы, як прычына ліквідацыі Беларускае гімназіі, і даводзе поўную безпадстаўнасьць гэтых матываў. Беларусы ў Латвіі ў палітычным сэнсе зара' апынуліся ў поўнай ізаляцыі. Ня гледзячы на сваю славянскую этнічную блізасьць да вялікарускае і польскае меньшасьці, беларусы ня могуць зьблізіцца з імі палітычна, бо павадыры гэтых меньшасьцяў

варожа настроены супроць беларусаў і не вызнаюць нацыянальных і сацыяльных патрэб беларускае меньшасьці. Таму беларуская меньшасьць заўсёды імкнулася да палітычнага зьбліжэньня з прагрэсыўнаю часткаю латыскае большасьці. Але гэтыя імкненьні не спаткалі належнае да сябе ўвагі і патрэбнае падтрымкі. Наадварот, як і ў справе распачатае зара' ліквідацыі Дзьвінскае беларускае гімназіі так і ў шматлічных іншых выпадках і здарэньнях, беларусы атрымоўвалі незаслужаныя ўдары, абразы свайго нацыянальнага пачуцьця і цяжкія безпадстаўныя закіды ў анцідзяржаўных настроях і намерах. Усё гэта перашкаджае запраўднай блізасьці і ўзаемнаму разуменьню. Мы не разумеем чаму і на падставе якіх фактаў беларусаў лічаць антыдзяржаўным элемэнтам.—„Вы-жа гэта чуеце ня ў першы раз!“ — устаўляе зноў міністар. — „Так!“ — адказвае К. Езавітаў: — „Але заўсёды незаслужона і безпадстаўна, а таму бяз гонару для нас і шкодна для дзяржавы!“ Прамоўца заканчывае просьбай — дзеля захаваньня ў будучыне добрых узаемаадносін паміж беларускім і латыскім народамі — ня ставіць беларускую меньшасьць у Латвіі ў становішча горшае за іншыя меньшасьці. **А. Р.**

(Працяг будзе).

## Беларускае жыцьцё у Літве.

**Праца беларускага культурна-асьветнага Т-ва у Літве** разьвіваецца усё шырэй. За некалькі месяцаў свайго існаваньня маладое Т-ва выявіла значную энэргію як у справе адчыненьня сваіх аддзелаў у правінцыі, так і у абслугоўваньні культурных патрэбаў Ковенскага беларускага грамадзтва. Тутака мы зьмяшчаемо кароткую хроніку працы Т-ва.

**Клюб беларускага культурна-асьветнага Т-ва** адчыніўся у Коўне 1 траўня 1932 году пад назовам „Беларуская Хатка“. У той-жа дзень у першы раз выступіла Драматычная Дружына Т - ва з першаю беларускаю пастаноўкаю. Ставілася п'еса-жарт Л. Радзевіча — „Зьбянтэжаны Саўка“.

**Беларускі канцэрт-баль у Коўне** зладжаны быў 11 чэрвеня у сале Ковенскае Ратушы беларускім культурна-асьветным Т-вам у Літве. Салісткай Беларускага Народнага Тэатру у Латвіі, вольнай мастачкай А. Латонас, сьпявачкай Л. Цыглерайтэ і выканаўцай беларускіх народных сьпеваў А. Матач, быў выкананы шэраг літоўскіх і беларускіх народных песен і дуэтаў кампазытараў: Аладава, Турэнкава, Прохарава, Жылевіча, Таалат-Кэлпша, Качаноўскага, Шымкуса і інш. Піаністка Цыглерайтэ выканала некалькі літоўскіх і беларускіх п'ес Чурленіса, Шопэна, Рахманінава і Аляб'ева. Як вакальныя так і музыкальныя нумары былі выкананы з вялікім мастацтвам, кожны нумар выклікаў бурныя аплёдысмэнты, а некаторыя песьні, па жаданьню прысутных, паўтараліся, як напрыклад, беларускія народныя песьні: „Лявоніха“ і „Чачотачка“. На канцэрту, апроч беларусаў, было шмат гасьцей-літоўцаў, сярод якіх прафэсар М. Біржышко, віцэбургомістр І. Пікчылінгас з жонкай, В. Квеска з жонкай і шмат іншых. Канцэрт зрабіў вялікае уражаньне на усіх прысутных і прайшоў у сэрдэчнай і сяброўскай абстаноўцы. Вечарына скончылася скокамі у 4 гадзіны зраньня.

**Другі беларускі спэктакль у Коўне** адбыўся 12 чэрвеня у памешканьні клюбу „Беларуская Хатка“. Сіламі Драматычнага Гурка пры беларускім культурна-асьветным Т-ве, пад кіраўніцтвам гр. Плескачэўскай і пры удзеле гр. гр.: Раманейко, Гайдукевіча і Пацэвіча была жыва і памастацку адыграна камэдыя Ф. Аляхновіча —„Чорт і баба“. Прысутныя госьці дружнымі аплёдысмэнтамі узнагараджалі выканаўцаў, шмат папрацаваўшых над пастаноўкаў п'есы. Пасьля спэктаклю адбылося канцэртнае аддзяленьне. Выканаўца беларускіх народных песен, грамадзянка А. Матач, пад акампанімэнт піаніна прасьпявала некалькі песен, вельмі цёпла спатканых публікай, потым выступілі з дэкламацыяй: гр. Гайдукевіч, маленькая Ленačка Плескачэўская і гр. Ліўшыц, які расказаў некалькі вясёлых народных беларускіх сцэнак і анэкдотаў. Вечарына скончылася скокамі.

**Беларускі спэктакль - канцэрт у Мусьніках** Вількамірскага павету адбыўся 4 верасьня і выліўся у вечарыну-акт беларуска - літоўскага зьбліжэньня. Перад



**Беларускі Народны Хор пры Беларускім Культурна-Асьветным Т-ве у Літве.** У цэнтры стаіць кіраўнік хору — гр. А. Матач, перад ім сядзіць ягоная жонка — гр. А. Матачова. Зара‘ хор гэты вандруе па беларускіх вёсках у Літве. Хор невялічкі па лічбе, але дзякуючы сіле і прыгожасьці галасоў, мае вялікі посьпех сярод беларускага і літоўскага жыхарства.

спэктаклям у часе якога ставіліся дзьве аднаактаўкі „Чорт і баба“ і „Зьбянтэжаны Саўка“, гр. Матач выступіў з лекцыяй аб беларусах на літоўскай мове, якая спаткана была дружнымі воплескамі. Пасьля спэктаклю выступіў беларускі хор Бразэльскага Аддзелу і паасобныя салісты. Канцэртны аддзел быў распачаты беларускім нацыянальным гімнам, а скончаны гімнам літоўскім.

**Трэці беларускі спэктакль у Коўне** адбыўся 16 ліпеня ў сале клюбу Т-ва. Ставілася камэдыя Крапіўніцкага — „Па рэвізіі“ і прайшла з добрым посьпехам. Ролю старшыні выканаў гр. К. Пацэвіч, пісара — А. Ямонт, Пантурчыхі — Н. Харчэнка, салдаткі — М. Любава, сьведкі — Высоцкі і стоража — Гайдукевіч.

**Першы беларускі хор у Літве** з‘арганізаваўся ў Бразэльскім Аддзеле і першы раз выступіў 8 жніўня на вечарынеспэктаклю у гэтым Аддзеле. Тутака-ж адбылася і першая пастаноўка у правінцыі, зробленая сіламі Тэатральнае Дружыны Т-ва, выехаўшай сюды з Коўны аўтабусам. Ставілася камэдыя А. Радзевіча — „Зьбянтэжаны Саўка“, якая прайшла дужа удала.

**Другі спэктакль у Бразэлях** адбыўся 14 жніўня і зьявіўся агульна-беларускім сьвятам для усей гэтай мясцовасьці. Ставілася п‘еса „Чорт і баба“, якая дужа спадабалася беларускаму вясковаму жыхарству.

**Беларускі Студэнцкі Гурток** у Коўне апрацаваў статут і зьбіраецца закласьці сваё таварыства пры Унівэсытэце. Больш лёгкае прыймо у Літоўскі Унівэрсытэт пачынае цягнуць туды і беларускую моладзь з Латвіі. У гэтым годзе паступіў у Літоўскі Унівэрсытэт пакуль-што толькі гр. Аф. Зэйгліш з Люцыншчыны, але зьбіраюцца паехаць туды і яшчэ некалькі грамадзян, што ня здолелі папасьці ў Латвійскі Унівэрсытэт, дзякуючы цяжкім варункам конкурсу.

**К. Ез.**

**Я. Райніс.**

## Сам.

У працы для другіх рупісь над разьвіцьцём
Усіх сіл сваіх ў змаганьні няупынным —
І пераможцам выйдзеш вечна нескрушымым,
І зьяньнем зброй сваіх зацемніш нябыцьцё.
Ды не бярысь пражыць з жабрацкаю душою, —
Бо, пэўны будзь, загінеш ў поўшляху, —
Натоўп цябе сатрэць, закідае грэзёю...
Змагайся сам, сам лёс ў рукох трымай,
Сам будзь гаспадаром, сам шчасьце здабывай.

З латыскае мовы пераклаў

**П. Массальскі.**

## Змагару-адраджэнцу.

(Прысьвячаецца К. Б. Езавітаву).

Трымайся, мой браце,
Ня скардзься на долю!
Хай цяжка змагацца
За праўду і волю —
Вагонь гарыць ў сэрцы.
Ты справы ня здрадзіш
Ў ганьбе - паняверцы.
Працуй-жа няўпынна
І веруй заўзята,
Што знойдзеш ты праўду
Для роднага брата!

**В. Сахарава.**

Дзьвінск, 1925 г.

## Латгалія.

Урывак з паэмы „Латгаліяда“.

Вось, яна — бабылка безталанная —
Абабраная і богам і людзьмі,
Ўсімі кінутая, ўсімі пагарджаная,
Абсьмяяная уласнымі дзяцьмі!
Вось, яна — кажух на плечах лаплены,
Ў лапці-поршні ногі урасьлі, —
Ой, паліты яе сьлёзамі, пакраплены,
Межы ўбогае няўроднае зямлі!
Нацярпелася, дазналась яна горухна,
Каб хоць што з зямелячкі згарнуць!
А зямлі-та той — аж глянуць шорахна:
Ледзьве-ледзьве ногі працягнуць!
Так і жывіцца бабылачка, даволіцца:
Ўзімку — бульбаю, а ўвосені грыбом;
А няма і іх — за ураджай памоліцца,
Пойдзе спаць з галодным жыватом.

**Пятро Сакол.**

# З жыцьця Т-ва Беларускае Моладзі у Латвіі

**Агульны сход Т-ва Беларускае Моладзі,** які адбыўся 13 лістападу, абраў новае Цэнтральнае Праўленьне у гэткім складзе: Старшыня — Казімір Мяжэцкі, намесьнік старшыні — Пятро Міgriановіч, сэкратар—Францішак Клагіш, намесьнік сэкратара — Міхась Зуеўскі і скарбнік— Язэп Клагіш.

Кандыдатамі да іх абраны: Янка Кудраўцаў, Язэп Каяла і Янка Дзягілёў.

У склад Рэвізыйнае камісіі увайшлі: Міхась Калінін, Вольга Андрушэнка і Антон Доўгі.

Кандыдатамі да іх абраны: Вікторыя Доўгая і Карла Казакевіч.

Агульным сходам было ухвалена: 1) залажыць грашовы фонд на выданьне беларускае часопісі у Латвіі; 2) дамагацца прадстаўніцтва Беларускае Моладзі у Радзе Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы.

**Новы аддзел Беларускае Моладзі у Люцыншчыне.** Цэнтральнае Праўленьне на сваім паседжаньні 27-га лістападу зацьвердзіла Пудынаўскі аддзел Т-ва у Мердзінскай валасьці,зчасовым Праўленьнем у складзе: старшыня Праўленьня — Алесь Іваноў, намесьнік старшыні — Тамаш Ціхаміраў, сэкратар — Дзьмітры Ціхаміраў, скарбнік — Янка Паціхонін, сябра — Савелі Сямёнаў і кандыдат — І. Лукашонак. Рэвізыйная камісія зацьверджана у складзе: У. Ціхаміраў, Л. Лукашонак і І. Іваноў.

**Струнны аркестр Пустынскаму Аддзелу Т-ва Моладзі** набыла Цэнтральнае Праўленьне Т-ва (3 балалайкі, 2 мандаліны, 1 мандаліна-пікола, 1 балалайка-бас). Аркестр гэты ухвалена перадаць Пустынскаму Аддзелу за за яго актыўную працу.

**Вясковыя беларускія бібліатэчкі** закладае пры сваіх аддзелах у правінцыі Т-ва Беларускае Моладзі. Цэнтральнае Праўленьне ухваліла адчыніць пакуль-што 10 бібліатэк. Кніжкі ўжо набыты і будуць разасланы тым Аддзелам, якія больш актыўна працуюць і падалі у Цэнтральнае Праўленьне усе тыя справаздачы, што запатрабаваны былі у „Апавесьніку“ № 1.

**Ахвяры кніжкамі** на падтрыманьне бібліатэкі Пустынскага Аддзелу Т-ва высланы у гэту бібліатэку гр-нам К. Езавітавам, у ліку 79 кніжок і Беларускім Аддзелам, у ліку 94 кніжок.

Памянёным ахвярадаўцам выказваецца шчырая падзяка.

**Рэфэраты для сяброў Т-ва Моладзі** ладзяцца 11 сьнежаня а 7 г. увечары у памешканьні Дзяржаўных Беларускіх вучыцельскіх курсаў (Brivzemnieku ielā, 22), Цэнтральным Праўленьнем Т-ва на тэму: „Арганізацыя беларускай моладзі і студэнцтва у Заходняй Беларусі і Чэхаславаччыне“. Дакладчыкамі будуць сябры— Язэп Клагіш і Францішак Клагіш. На рэфэраты запрашаюцца усе сябры Т-ва Моладзі і іх знаёмыя.

**Пашыранае паседжаньне Цэнтральнага Праўленьня** адбудзецца 4-га сьнежня а 12 г. дня у памешканьні старшыні Ц. П. К. Мяжэцкага (Dzirnavu ielā, 102, dz. 14). У павестцы дня: 1) зьмена статуту Т-ва Беларускае Моладзі, 2) бягучыя справы. На паседжаньне запрашаюцца сябры Праўленьня, кандыдаты і Рэвізыйная камісія.

**Цэнтральнае Праўленьне.**

## Да ведама сяброў і Аддзелаў Таварыства Беларускае Моладзі.

Цэнтральнае Праўленьне Т-ва Беларускае Моладзі гэтым паведамляе, што выхад „Апавесьніка“ № 2-гі затрыманы да часу атрыманьня падрабязных вестак аб працы і складзе аддзелаў. Усе весткі трэба надаслаць па адрасу: Rīgā, Dzirnavu ielā 102, dz. 14. K. Miažeskam. Паведамленьні і хроніка аб жыцьцю Т-ва будуць зьмяшчацца ў часопісу „Беларуская Школа ў Латвіі“.

Цэнтральнае Праўленьне выказвае Рэдакцыі штомесячніка „Беларуская Школа ў Латвіі“ шчырую падзяку за ветлівы дазвол карыстацца старонкамі часопісу для інфармацыі аб працы Т-ва.

**Цэнтральнае Праўленьне Т-ва Беларускае Моладзі у Латвіі.**

# Хроніка беларускага жыцьця у Латвіі.



**Сяргей Пятровіч Сахараў** — былы дырэктар Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае гімназіі, звольнены з пасады у гімназіі міністрам асьветы гр. А. Кеньнням. Звальняючы С. Сахарава, міністар абяцаў прызначыць яму пэнсыю, аднак да гэтага часу — вось ужо у працягу двух месяцаў — пэнсыі С. Сахараў усё яшчэ не атрымаў, і няма ведама ці атрымае, бо у міністэрстве народнага дабрабыту, куды зара‘ перададзена справа аб пэнсыі, робяць С. Сахараву розныя зацяжкі і перашкоды.

С. П. Сахараў радзіўся 29 (16) верасьня 1880 году у Полацку, вучыўся спачатку у Тураўлянскай пачатковай школе (у 1890 годзе), а затым скончыў у 1895 г. Полацкае духоўнае вучылішча і у 1901 годзе Віцебскую духоўную сэмінарыю, а потым адпрацаваўшы 5 год вучыцелем у Люцыне, паступіў у 1907 годзе на юрыдычны факультэт Юраўскага (Tartu) Унівэрсытэту, які і скончыў у 1911 годзе. Больш падрабязную біографію С. П. Сахарава мы зьмесьцім у адным з наступных нумароў.

**Беларускае Навукова - Краязнаўчае Т-ва**, каб утварыць выдавецкі фонд, ухваліла прапанаваць найбольш актыўным сябром уносіць у працягу году па 10 латаў у месяц. Такім чынам будзе складзены фонд на выданьне беларускае народнае творчасьці, сабранай у межах Латвіі, а таксама будуць надрукаваны некаторыя навукова-краязнаўчыя працы паасобных сяброў Т-ва. Тыя сябры, што зробяць у працягу году памянёныя складкі, будуць, на моцы § 7 статуту Т-ва, лічыцца заўсёднымі сябрамі Т-ва і будуць пазбаўлены ад далейшых абавязковых сяброўскіх складак назаўсёды.

**Агульны сход бацькоў 1-е Рыскае беларускае школы** адбыўся 25 верасьня. На сходзе было прысутна каля сотні бацькоў. Быў заслуханы даклад кіраўніка школы С. Сіцько і старшыні Школьнае Рады аб працы школы за мінулы 1931-32 навучальны год, а затым абраны былі прадстаўнікі ад бацькоў у Школьную Раду школы. Абранымі аказаліся: 1) Сташкевіч Баляслаў, 2) Бурак Мікалай, 3) Іваноў Ян, 4) Клагіш Гэлена, 5) Савіцкі Уладзімер, 6) Закрэўскі Антон, Чэкстэр Баніфацы і кандыдатам да іх — гр. Шаблоўскі. Ад Пэдагогічнае Рады школы у склад Школьнае Рады абраны настаўнікі: Люцыя Тэтар, Марыя Даль, Міхал Краўчанка, К. Езавітаў, Вольга Гайліс, Аляксандр Родзька і Язэп Камаржынскі. Апрача таго у Школьную Раду уваходзяць: кіраўнік школы—Сьцяпан Сіцько, школьны дохтар — Бэньямін Вайштэйн ды прадстаўнік ад гораду Рыгі, як утрымацеля школы. А усяго Школьная Рада складаецца з 17 чалавек. С. С.

**Агульны сход бацькоў 2 - ой Рыскай беларускай асноўной школы** на Чырвонай Дзьвіне адбыўся 5-га лістападу. На сходзе было прысутна кала 40 бацькоў. Кіраўнік школы гр. Г. Плыгаўка зрабіў даклад аб сучасным становішчу школы і аб працы Школьнае Рады за 1931-32 навучальны год. Школьнай Радзе была выказана падзяка за яе працу. Пасьля дакладу кіраўніка школы адбыліся выбары новага складу сяброў Школьнае Рады на 1932-33 навучальны год. Абранымі аказаліся: ад малодшае дашкольнае клясы — Э. Дылба, а яго намесьнікам—Э. Гайлан; ад старэйшае дашкольнае клясы—Н. Вільчынская, нам.—З. Мачульская; ад І і II кл. — Д. Грыгаровіч, нам.—К. Сінкевіч; ад III кл.—А. Драздовіч, нам. Э. Вільчынскі; ад IV кл. — Я. Юшкевіч, нам.—Ю. Вайводзіш; ад V і VI кл.—М. Сінкевіч, нам.—В. Зімнік. Пасьля зачыненьня сходу адбылася гутарка у часе якой кіраўнік і настаўнікі школы зьвярнуліся да бацькоў з просьбай як мага акуратней пасылаць вучняў у школу і унікаць пасылцы вучняў у часе лекцый за палуднем на біржу (большая палова бацькоў зара безпрацоўныя і атрымліваюць абеды ад біржы). **Г. Н.**

**У Дзьвінскай беларускай асноўнай школе** 23 кастрычніка адбылася першая у бягучым навучальным годзе вечарынанядзельнік. Была разыграна п‘еса Ф. Аляхновіча — „Заручыны Паўлінкі“, а потым выступаў вучнёўскі хор і паасобныя вучні з дэклямацыяй. На вечарыне былі прысутны бацькі вучняў і іх радня. Праграма зрабіла вельмі добрае уражаньне.

**Канцэрт-лекцыю памяці Яна Райніса** ладзіць у нядзелю 18 сьнежаня Т-ва Беларускага Тэатру у памешканьні Дадатковае беларускае школы на Чырвонай Дзьвіне, Сымонаўская вуліца 14-16. Лекцыю на тэму „Ян Райніс як паэта і грамадзкі дзеяч“ адчытае старшыня Беларускага Навукова-Краязнаўчага Т-ва гр. К. Езавітаў. Пасьля лекцыі адбудзецца канцэртнае аддзяленьне з удзелам: вольнае мастачкі В. Бароўскай-Пігулеўскай, вольнай мастачкі А. Латонас-Дзямідавай, гр. Г. Бедаравай-Шаўцовай і гр. Акмэнькална. Уваход безграшовы. **У. Г.**

**Сьвяткаваньне 50-х угодкаў Уладыслава Галубка** ладзіць 30-га сьнежаня Рыская Беларуская гімназія. Дзеля таго, што на 1932 прыпалі 80-тыя угодкі першае беларускае тэатральнае пастаноўкі, дык адначасна будзе адсьвяткаваны юбілей 80-цігодзьдзя Беларускага Тэатру. Рэфэрат на тэму „Беларуская тэатральная праца і Уладыслаў Галубок“ — прачытае вучыцель гімназіі гр. К. Езавітаў.

**Беларуская Юбілейная Камісія** па выданьню зборніка „Дзесяць год беларускае школы у Латвіі“ выпусьціла другі ліст гэтага зборніка. Зара‘ ідзе падрыхтоўка да друку 3-га ліста. Кіраўнікоў беларускіх школ і установ, а таксама і праўленьні усіх беларускіх культурна-асьветных арганізацый Камісія яшчэ раз просіць прысьпяшыць з надсылкаю матар‘ялаў. Грамадзян, якія яшчэ ня склалі сваіх складак на друк зборніку просяць надаслаць свае адлічэньні.

**Выйшла новая п‘еса Вольгі Сахаравай** пад назовам „Птушка на волі“. П‘еса у трох дзеях са сьпевамі з жыцьця беларускай вёскі. Дзьвінск. 1932. 34 балонкі фармату 14×22 сант. Кошт 50 сантымаў. Як відаць з далучанае да п‘есы фатаграфіі, п‘еса ставілася ужо за 3 гады да таго, як яна была надрукавана (першая пастаноўка адбылася 26 кастрычніка 1926 году на сцэне Дзьвінскае беларускае гімназіі). Вітаючы нашу „першакрокаўку“ з выхадам у сьвет новага яе твору, разгляд п‘есы адкладаемо да наступнага нумару.

**Беларускія літэрацкія сілы у Латвіі** пачынаюць варушыцца і аднаўляць сваю працу, якая заняпала было у зьвязку з перарывам у выхадзе нашага штомесячніка і з спыненьнем газэты „Голас Беларуса“. У Рэдакцыю нашу пачынаюць зноў надсылаць свае ужо вядомыя творы нашаму грамадзтву „першакрокаўцы“, а таксама зьяўляюцца і новыя маладыя пісьменьнікі: з Люцыншчыны мы атрымалі вершы гр. Саўкі Сьлядзеўскага, з Дзьвінску двух‘актавую п‘еску „Шэльмы“ ад гр. Алеся Галіны, з Рыгі і Дзьвіншчыны паасобныя вершы ад грамадзян, якія нідзе яшчэ не друкаваліся. Творы гэтыя зара‘ разглядаюцца Рэдакцыйнай Калегіяй.

## Агульны Сход Т-ва Беларускага Народнага Тэатру ў Латвіі.

1-га кастрычніка у памешканьні I беларускае пачатковае школы у Рызе адбыўся Агульны Сход Т-ва Беларускага Народнага Тэатру у Латвіі. Прысутна было каля 20 асоб. Даклад аб дзейнасьці Т-ва быў зроблены старшынёй Цэнтральнага Праўленьня, гр. Вольгай Пігулеўскай-Бароўскай пры садакладчыку гр. Я. Камаржынскім. З справаздачы высьветлілася, што Т-вам у мінулым годзе было пастаўлена дзесяць сьпэктакляў, з якіх тры прэм‘еры: „Пашыліся у дурні“, „Змагары за ідэю“ і „Хлебароб па амэрыканску“. Праца па развучваньню п‘ес праходзіла пад кіраўніцтвам артыстаў Расейскае Драмы — Ю. дэ-Бура і У. Каценева. Пасьля дакладаў сход перайшоў да разгляду буджэту Т-ва на наступны год. Буджэт складзены у агульнай суме 8717,78 латаў. Т-ва разьлічае на дапамогу Культурнага Фонду (500 лат.) і дзяржаўную (3000 лат.), але магчымасьці атрымаць гэтыя дапамогі надта праблематычныя. Цяжкі грашовы стан Т-ва змушае сяброў артыстычнага калектыву працаваць безграшова. Усе выдаткі абмяжаваны. Сход ухваліў увайсьці у кантакт з жыдоўскім „Рабочым Тэатрам“, каб супольна карыстацца памешканьнем памянёнага Тэатру. У справе новых пастановак высьветлілася, што намячаюцца гэткія п‘есы: „Хам“, „Дзядзька Якуб“, „Апошняе спатканьне“, „Ружовае паучыньне“.

Што тычыцца працы сяброў артыстычнага калектыву, дык сход знайшоў што маладыя беларускія артысты зрабілі вялікія посьпехі у тэатральнай працы. Пасьля абгаварываньня некаторых дробных пытаньняў сход перайшоў да выбараў Цэнтральнага Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі. Абраны: Старшынёй — гр. В. Бароўская-Пігулеўская, намесьнікам старшыні — В. Даўгая, скарбнікам — дырэктар Рыжскага Беларускага Народнага Тэатру Я Камаржынскі, сакратаром — У. Гусарэвіч, намесьнікам дырэктара — Я. Каяла. Кандыдаты — К. Мяжэцкі, М. Калінін. У Рэвізыйную камісію абраны: С. Сіцько, П. Жэрдзі А. Рытаў. Кандыдаты — М. Грыўскі, В. Аляксеева.

**Ул. Гусарэвіч**

Адказны Рэдактар — **К. Езавітаў.** Выдавец — **Беларускае Выдавецтва**

Беларускае Навукова-Краязнаўчае Таварыст

рыхтуе да выпуску зборнік пад назова

## Біографіі дзеячоу Беларускага Адраджэньня

У зьвязку з гэтым Праўленьне Т-ва зьвяртаецца да усіх беларускіх паэтаў, грамадзкіх дзеячоў, вучыцялёў, артыстаў і усіх іншых грамадзян, актыўна працаваўшых і працуючых у беларускім адраджэнчым руху, з просьбаю як мага хутчэй надаслаць у канцалярыю Т-ва: 1) падрабязныя с в а е аўтабіографіі і фатаграфічныя карткі; 2) біографіі і фатаграфіі тых беларускіх дзеячоў, што самі, па тых ці іншых прычынах, прыслаць аб сабе вестак ня маюць магчымасьці.

Усе матар'ялы трэба накіроўваць на адрас: Latvijā, Rīgā, Elija ielā, 20, dz. 25. Ķ. Jezavitavu.

Праўленьне Таварыства.

---

**У Люцыне ў цэнтры гораду, на высокім прыгожым мейсцы,**

## прадаецца двухпавярховы будынак

**і вялікі кавалак зямлі з старым садам,**

якія выходзе на 4 вуліцы і займае плошчу ў 6½ гэктараў. Магчыма адкупіць ня толькі ўсю маёмасьць адразу, але і права на паасобныя ідэальныя часткі яе ад паасобных спадкаберцаў. Аб варунках пакупцы і стане маёмасьці больш падрабязныя весткі можна атрымаць у Рэдакцыі штомесячніка „Беларуская Школа ў Латвіі“: Рыга, Ільінская вул., 20, кв. 25, а таксама па тэлефону № 2-9-9-2-2. Паштовы адрас: Rīgā, Elija ielā, 20,dz. 25, „Bielaruskaja Škola u Latviji“. Упаўнаважан. маёмасьці ў Люцыне.

---

**Купляйце, выпісывайце і пашырайце часопіс беларускай моладзі**

## «ШЛЯХ МОЛАДЗІ»

**(Вільня, Завальная вуліца 6, кв. 10),**

якая выходзіць што месяц ад 1929 году рэдагаваная Рэдакцыйнай Калегіяй. У часопісі **„Шлях Моладзі“** зьмяшчаюцца стацьці у духу выхаваўча-грамадзкім, народным, апісваецца жыцьцё беларускага народу, вядзецца багаты аддзел літаратуры, гісторыі, навукі, цікавыя усячыны, хронікі і інш. Падпіска на **„Шлях Моладзі“** за год каштуе: у Латвіі 3 латы, а у Літве—6 літаў. З Латвіі і Літвы падпіску на „ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ прымае экспэдыцыя штомесячніка „Беларуская Школа у Латвіі“

Latvijā, Rīgā, Elija ielā, 20, dz. 25. Redakcija „Belaruskaja Škola u Latvii“.

---

**Беларускае Выдавецтва у Латвіі прапануе**

## Беларускія адрыўныя календары на 1933 г.

Кошт паасобнага календара—80 сантымаў, а з перасылкай да хаты—90 сант. Грошы можна перасылаць пераводам, або паштовымі маркамі па адрасу: Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25. Baltkrievu Izdevniecība.